ISSN 0700-5172

ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ. Veterans quarterly published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. Canada Office: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2 U.S. address: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd., Highland Park, N.J. 08904, U.S.

Год 17 Сакавік, 1991 Нр. 1 (61)

## СЕМДЗЯСЯТЫЯ ЎГОДКІ ГАНЬБЫ



*Здымка з архіву Ул. Скрабатуна*

*Зірнеце на гэтую здымку. На ёй бачыце твары ворагаў беларускага і ўкраінскага народаў, што ў Рызе 12.X.1920 г. падпісалі дагавор пра спыненьне ваенных дзеяньняў між бальшавіцкімі й польскімі захопнікамі земляў Беларускай Народнай Рэспублікі і Украінскай Народнай Рэспублікі. У выніку далейшых перамоваў прадстаўнікі дыктатара Леніна й дыктатара Пілсудзкага падпісалі ў Рызе 18.3.1921 году канчатковы дагавор, на моцы якога падзялілі між сабою землі Беларусі і Украіны. Гэны дзень у гісторыі павінен быць ведамы як*

**ДЗЕНЬ ГАНЬБЫ**

## ДЗЕНЬ ГАНЬБЫ

Пазнавайце гісторыю свайго народу. Трымайце на воку нашых ворагаў. Магчыма, што яны зноў на нас войстраць нажы. Памятайце, што "тыя, што забываюцца пра сваё мінулае, павінны яго паўтарыць".

Уважна прыгледзьцеся сквапным тварам пасланцоў двух варожых дыктатараў, каторыя падзялілі жывое цела нашае шматпакутнае і гаротнае Маці Беларусі. Гэты ганебны дагавор прынёс нашаму народу вялікую катастрофу. У маскоўскай калёніі бээсэсэрыі — мільёны Беларусаў загінулі ў Гулагу, розных Курапатах. Акупанты вынішчылі творчую і разумную інтэлігенцыю, зруйнавалі сьвятыні, вымардавалі сьвятароў і найбольш працавітых сялян, стварылі калгасны прыгон, зьнішылі адроджаную беларускую культуру, шырока адчынілі дзьверы русыфікацыі. З заходняга боку ганебнай Рыскай мяжы польскі акупацыйны рэжым зьнішчыў беларускае школьніцтва, каапэратывы, арганізацыі, сьвятыні зь беларускай мовай, ля Беластоку і ў Картуз Бярозе ў канцлягерах акупацыйны польскі рэжым катаваў і мардаваў перадавых Беларусаў. Польскія асаднікі-легіянеры зрабавалі ад беларускіх сялянаў найлепшую зямлю, а вялікія паны земляўласьнікі эксплёатавалі за жабрацкую заплату сялянскую рабочую сілу. Ішла суцэльная палянізацыя беларускага насельніцтва.

А ці мы добра бачым і разумеем што сяньня робяць нашы суседзі, што яны плянуюць у адносінах да Беларусі? З аднаго боку распадаецца бальшавіцкая імпэрыя. Тут і там вылазяць наверх старыя дыназаўры, якія хацелі-б трымаць нашу зямлю й народ у "адзінай недзялімай". Зь іншага боку... Кагадзе адзін з нашых чытачоў, у сваім лісьце да нас, турбуецца што ў Лёндане г. зв. "урад Рэчыпаспалітай Польскай" лічыць, што нягледзячы на ўмову 1945 г. у Ялце, "крэсы ўсходнія" — Заходняя Беларусь — павінны належаць да Польшчы.

Такіх дзівакоў як гэны "ўрад" у Лёндане, ёсьць шмат больш. Яны — кароста на целе польскага народу. Але нас павінны цікавіць ня толькі польскія дзівакі, што хацелі-б аднавіць на жывым целе Беларусі ганебную рыскую мяжу. Зірнеце на тое, якую "боскую" работу вырабляюць цяпер на тэрыторыі "сувэрэннай" бээсэсэрыі так званыя "касьцельныя палякі". Гэта — адурманеныя каталікі Беларусы. Польскія ксяндзы, за якімі стаяць рознага роду палітычныя цемрашалы і забойцы, зноў палянізуюць новае беларускае пакаленьне, гэтым вядуць наш народ да новае катастрофы.

Як даваць адпор гэтым д'ябальскім нашчадкам тварцоў ганебнае рыскае ўмовы? Нацыянальным усьведамленьнем, беларусізацыяй каталіцтва, праваслаўя, згуртаванасьцю, салідарнасьцю беларускіх нацыянальных інтарэсаў у незалежнай ад Масквы й Варшавы Беларускай Народнай Рэспубліцы, ахвярнасьцю ў працы і аднаўленьнем зруйнаванай чужынцамі гаспадаркі.

Беларусы, Украінцы, Палякі і прыбалтыйскія народы павінны жыць у згодзе, адзін аднаму памагаць. Адно такім чынам утрымаюцца ў сваіх незалежных дзяржавах між суседзяў, каторыя ўжо ці раз руйнавалі нас і нашую частку Эўропы.

## ЦЫТАТА НА СЯНЬНЯ

**»Час цяпер такі, што трэба забыцца на сьлёзы гора і сьлёзы замілаваньня. Дужэе палянізацыя, прачынаецца праваслаўна -манархічны мядзьведзь, заяўляе пра сябе праўкраінскі сэпаратызм, летувіскія вёскі Смаргоншчыны ды Ашмяншчыны пазіраюць на Вільню, па каліву адсабечваюць беларускую зямлю латыскія памежныя слупы. Ідуць зусім аб'ектыўныя працэсы: слабога абкрадаюць ды разбураюць, слабы развальваецца сам.**

**Процістаяць гэтаму ўсяму можа толькі лёгіка, толькі здаровы сэнс, наш рацыянальны нацыяналізм, які дасьць беларускай ідэі рэальнае эфэктыўнае ўвасабленьне і сілу духу. Нам трэба значна і хутка падужэць.»**

*С.Дубавец,"ЛіМ", 2.XI.1990.*

В. Сянькевіч

## У 70-я ЎГОДКІ САВЕЦКА-ЛЕТУВІСКАГА МІРНАГА ДАГАВОРУ

*(Заканчэньне. Пачатак гл. № 4/60)*

Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба толькі заглянуць у навуковыя працы аб'ектыўных савецкіх, польскіх, летувіскіх і іншых дасьледнікаў, зь якіх даведваемся, што так званыя "палякі" у запраўднасьці ў сваёй бальшыні гэта — Беларусы рыма-каталіцкага веравызнаньня, якія ў штодзённым жыцьці карыстаюцца беларускай мовай, хоць знаюць і іншыя мовы. Гэтак, прыкладам, летувіская вучоная Грынавецкене, пішачы пра некаторыя зьявы сутыку летувіскіх і славянскіх гаворак у паўднёва-ўсходняй Летувіскай ССР сьцьвярджае наступнае: "У некаторых раёнах Летувы, асабліва ў раёнах беларускалетувіскага сумежжа, з прычыны пэўных палітычных і грамадзкіх адносінаў, якія склаліся ў ходзе гістарычнага працэсу, сустракаюцца суцэльныя, часамі даволі вялікія тэрыторыі, жыхары якіх умеюць гаварыць на некалькі мясцовых гаворках паасобных моваў. Прыкладам, жыхары паўднёва-ўсходніх ваколіцаў летувіскае сталіцы (паўд.-усх. частка Віленскага раёну, усх. чатска Троцкага, Эйшыскі р-н.) у асноўным гавораць пабеларуску ("папросту") і папольску, ведаюць расейскую мову, а старыя, у веку 70 — 80 гадоў, гавораць палетувіску. Слаба палетувіску гавораць дзеці школьнага веку..." ("Балто-славянский сборник, 1972 г.).

І далей: "На дасьледаванай тэрыторыі, у большасьці выпадкаў у хатнім ужытку й таварыстве людзі гавораць пабеларуску ("папросту"), асабліва сярэдняе пакаленьне й моладзь, хоць уважаюць сябе за Палякаў". Падобныя або ідэнтычныя цьверджаньні можна сустрэць у працах Турскай, Вітава, Марка і Чабаксарава, Ракава, Сабаленкі, Вярэніча, Чэкмана і інш., не гаворачы ўжо аб Маскоўскай Дыялектычнай Камісіі, якая яшчэ ў 1915 г. Вільню й Віленскую акругу залічыла да беларускай этнаграфічнай прасторы.

А як-жа выглядае справа нацыянальна-культурнай дзейнасьці тых акаталічаных Беларусаў? Да гэтага часу яны ня мелі аніякіх магчымасьцяў разьвіваць сваё нацыянальнае жыцьцё. Усякая беларуская нацыянальная дзейнасьць была забароненая. Масква цэлы час падтрымлівала і стымулявала працэс апалячваньня Беларусаў гэтага раёну.

Цяпер вернемся да прававых аспэктаў савецка-летувіскага мірнага дагавору з 12.7.1920 г. У ім бальшавікі парушылі "рэвалюцыйныя" нормы самавызначэньня народаў. Летувіскі народ у сваіх этнаграфічных межах выразіў волю стварыць незалежную дзяржаву, падтрымаўшы свой урад у Коўне і падпарадкаваўся яму ляяльна на працягу паўтара году. Такім чынам ён выканаў ужо акт палітычнага самавызначэньня. А беларускае і іншанацыянальнае насельніцтва Гародзеншчыны, Вільні, Віленшчыны й паўднёвай Сувальшчыны ніяк і ніколі не выяўляла свае волі належаць да летувіскае дзяржавы. І гэта — бясспрэчны факт. Яго мы падкрэсьліваем з асаблівым націскам, бо Савецкая Расея, калі падпісвала мірны дагавор зь Летувай, абсалютна ня мела ніякіх сувэрэнных правоў на землі, якія яна перадавала летувіскай дзяржаве. Яна тыя правы анулявала дэкрэтам Народных Камісараў з 29.8. 1918 г.

У ліпені 1920 г. сытуацыя на польска-бальшавіцкім фронце дазваляла Маскве спадзявацца, што "вечныя часы", на якія Савецкая Расея адмовілася ад сувэрэннасьці над Летувай у прыгаданым мірным дагаворы, патрываюць ня больш чым пару месяцаў. Але разгром Чырвонае арміі ў палове жніўня над Віслай зьмяніў сытуацыю. Бальшавікоў адкінулі далёка на ўсход. Ад маскоўскае навалы ўратаваліся тады й балтыйскія народы, у іх ліку й Летува. Дзякуючы гэтаму, савецка-летувіскі мірны дагавор абавязваў на працягу цэлых 20 год, да 1940 году, калі йдзе пра прынцып незалежнасьці летувіскага народу, які прызнавала Масква.

Ангдійская газэта "Таймс" з 5.8.1920 г. апублікавала тэкст тайнага дадатку да савецка-летувіскага мірнага дагавору з 12.7.1920 г. Згодна з гэным дадаткам, Летува давала Савецкай Расеі права на карыстаньне тэрыторыяй прызнанай Летуве для ваенныфх апэрацыяў супраць Польшчы да часу трываньня стратэгічных неабходнасьцяў. З савецкага боку гэны дакумэнт нібыта падпісалі: Ёфэ, Мархлеўскі і Абаленскі.

Як адзначае польскі гісторык Вяльгорскі ў сваёй працы "Польшча й Летува", выдадзенай у 1947 г. у Лёндане, аўтэнтычнасьць гэтага дакумэнту, здаецца, ня была праверана. Жыцьцё, аднак, — кажа аўтар, — пацьвердзіла праўдападобнасьць існаваньня такіх агаворак. Для змаганьня з Палякамі ў 1920 г. савецкія войскі свабодна карысталіся тэрыторыяй Гарадзеншчыны й Віленшчыны бязь ніякіх перашкодаў з боку Летувы. Летувіскія войскі абяззбройвалі і інтэрнавалі тыя польскія вайсковыя адзьдзелы, якія ім удавалася акружыць на прыгаданых землях у час адступленьня польскай арміі ў ліпені 1920 г. "Нэўтральнасьць Летувы ў савецка-польскай вайне, — падкрэсьлівае Вяльгорскі, — з гэтага моманту фактычна перастала існаваць".

Праўдападобна былі й іншыя больш важныя моманты тактычнага супрацоўніцтва паміж Чырвонай арміяй і летувіскімі войскамі на занятай імі беларускай тэрыторыі ў часе польска-савецкае вайны 1920 г., але яны мала дасьледаваныя патрабуюць канчатковага высьвятленьня. Яны выходзяць за рамкі нашых сяньняшніх разважаньняў. У запраўднасьці, як Палякі, гэтак Летувісы й бальшавікі змагаліся між сабою за беларускія этнаграфічныя землі, за паняволеньне беларускага народу. Нас-жа цікавіць тут стаўленьне бальшавікоў да беларускага пытаньня, да Беларусаў, якое, як мы сказалі раней, заўсёды было варожым.

Зыходзячы зь вядомых нам гістарычных фактаў таго пэрыяду мы можам меркаваць, што прынамсі да 23-га сьнежня 1918 году ў плянах савецкага ўраду Леніна ня было месца для нацыянальнага самавызначэньня Беларусі, а больш канкрэтна — для стварэньня беларускай савецкай дзяржаўнасьці.

У сувязі з гэтым паўстае пытаньне: што было прычынаю для зьменаў у кірунку прызнаньня неабходнасьці абвесьціць утварэньне Беларускай савецкай рэспублікі? Як вядома, лістападаўская рэвалюцыя 1918 г. ў Нямеччыне, разам з адыходам нямецкае арміі з акупаваных тэрыторыяў, спачатку акрыліла бальшавікоў у надзеі на ажыцьцяўленьне пралетарскай рэвалюцыі ўва ўсёй Сярэдняй Эўропе, ня выключаючы й Польшчы. Дэкрэт ураду Леніна праануляваньне Берасьцейскага мірнага дагавору з 13-га лістапада 1918 году найбольш ярка фармуляваў такія надзеі. У пляне рэвалюцыі ў Польшчы ствараецца ў Маскве ў лістападзе 1918 г. Польскі Нацыянальны Камісарыят. Крыху пазьней паўстала і Камуністычная Рабочая Партыя Польшчы. Тут-жа сьпешна фармавалася польская т. зв. "Заходняя стралковая дывізія", каб "змагацца за дыктатуру пралетарыяту ў Польшчы".

Але, падтрыманая дзяржавамі Антанты, а на іхнае дамаганьне — і нямецкім камандаваньнем з кватэрай у Гародні, Польшча тым часам становіцца небасьпечным канкурэнтам для Савецкае Расеі. Пры гэтым, як вядома, Палякі ня вельмі хавалі свае прэтэнзіі на землі Беларусі й Летувы. Каб падмацаваць тыя прэтэнзіі, у сьнежні 1918 г., зь ініцыятывы польскага ўраду, на тэрыторыі Беларусі й Летувы стварающца польскія вайсковыя адзьдзелы "самаабароны", а ў самай Польшчы фармуецца г. зв. "Летувіска -беларуская дывізія". Апроч таго абвяшчаецца стварэньне "Летувіска-беларускае ваеннае акругі", пэўне-ж, у інтарэсах Польшчы. Нарэшце, 22-га сьнежня Масква атрымала ноту, у якой урад Польшчы катэгарычна пратэставаў "супраць пасоўваньня савецкіх войскаў да польскай граніцы".

Яшчэ больш пагражальнай, з адкрытымі прэтэнзіямі на землі Беларусі й Летувы, была нота польскага ўраду, якую у Маскве атрымалі 30-га сьнежня. Вось-жа такое палітычнае ўзмацненьне Польшчы, выяўленьне зь ейнага боку прэтэньзіяў нібыта ўзяць пад сваю абарону Беларусь і Летуву і прыгаданая нота з 22-га сьнежня 1920 г., з аднаго боку, і актыўная дзейнасьць ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, незалежнасьць якое была абвешчаная яшчэ ў сакавіку 1918 году, з другога, і былі тым паваротным пунктам, які, можна сказаць, змусіў савецкі ўрад Леніна згадзіцца на ўтварэньне Беларускай савецкай рэспублікі й наогул заняцца беларускім пытаньнем.

Як вядома, пасьля "прапрацоўкі" беларускага пытаньня ўва ўсіх інстанцыях, 30-га сьнежня ў Смаленску склікаецца VI-я абласная канфэрэнцыя РКП(б), якая абвесьціла сябе I-м зьездам КП(б) Беларусі. 1-га студзеня 1919 г. абвяшчаецца ўтварэньне БССР. Выдаецца маніфэст, фармуецца, у парадку прызначэньня, урад. Абвешчаная ў Смаленску БССР абыймала большасьць паветаў Смаленскай губэрні і чатыры паветы Чарнігаўскай. Гэта апроч Віцебскай, Магілёўскай, Менскай, Гародзенскай і часткі Віленскай губэрняў. Як паказалі далейшыя падзеі, улучэньне ў склад БССР блізу ўсёй тэрыторыі этнаграфічнае Беларусі было толькі часовай зьявай, тактычным манэўрам, выкліканым непасрэдным узьдзеяньнем БНР, што абыймала ўсе этнаграфічныя беларускія землі. І калі бальшавікі ўправіліся замацаваць сваю ўладу, іхны "этнаграфізм" адыйшоў у нябыт.

Ужо на паседжаньні 16-га студзеня 1919 г., на якім прысутнічаў Ленін, ЦК РКП(б) аднагалосна пастанавіў тэрытарыяльна абмежаваць толькі што абвешчаную БССР да Менскай і Гародзенскай губэрняў, а Смаленскую, Віцебскую і Магілёўскую ды беларускія паветы Чарнігаўскай губэрні зноў далучыць да Расеі. Крыху пазьней, пад канец студзеня, зь ініцыятывы Леніна, ЦК РК(б) прыймае яшчэ адну дадатковую пастанову: тэрытарыяльную рэшту Беларускай ССР сфэдэралізаваць з Савецкай Расеяй і аб'яднаць зь Летувіскай савецкай рэспублікай. Для рэалізацыі вось такіх пастановаў ЦК РКП(б) і быў склікацы ў Менску на 1-2 лютага г. зв. І-шы ўсебеларускі зьезд саветаў. Мінула ўсяго 25 дзён пасьля гэтага зьезду, які зацьвердзіў канстытуцыю БССР, калі ўжо 27-га лютага 1919 г. ў Вільні абвяшчаецца ЛетБел. Пры ўтварэньні ЛетБелу абрэзалі тэрыторыю Беларускай рэспублікі. У ейны склад цяпер уключылі толькі Менскую і частку Віленскае губэрні, а ўдзел Беларусаў ва ўрадзе зьвялі да аднаго чалавека.

Быў гэта чарговы й бясцырымонны акт гвалту й грубага парушэньня ня толькі сувэрэнных але і элемэнтарных правоў беларускага народу, які Масква паўтарыла зноў 12.7.1920 г., падпісваючы мірны дагавор зь Летувай, затым у кастрычніку 1939 году, калі бяз згоды й ведама беларускага народу і нават без кансультацыі нібы сувэрэннага беларускага савецкага ўраду, у замену за права на разьмяшчэньне савецкага войска на летувіскай тэрыторыі, передавала Летуве Вільню й Віленшчыну.

# ЯК ЯНЫ ПАМАГАЮЦЬ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ

*Да суродзічаў, што жывуць за межамі Беларусі, управы Беларускага Народнага Фронту ўжо зьвярталіся з просьбай, каб памаглі ахвярам Чарнобыля. Пад напорам народнага болю і абурэньня, нават і менская вандэя (сталіністы) выдалі заклік. Міласэрныя людзі, — свае і чужыя, — адклікнуліся на гэты заклік, ужо памагалі і яшчэ будуць памагаць. А як-жа памагае ахвярам Чарнобыля менская вандэя? Магчыма, вы меркавалі, што й Сокалаў, і Дземяньцей, і іхныя, зьненавіджаныя запрыгоненымі дагэтуль Беларусамі, партыйныя гарлапаны сьпяшаць на помач хворым і пакалечаным... У менскай газэце "Літ. і Маст", з 21.IX летась А. Кудравец, у артыкуле "Пераможаныя пераможцы" крыху прыадчыняе заслону. Зьмячшчаем вытрымкі з артыкулу.*

З трэцяга да дзясятага мая ў Заходнім Бэрліне праходзіў "Тыдзень Беларусі". Праводзіла яго добра вядомая і ў рэспубліцы і ў Саюзе дабрачынная акцыя "Выкупленьне". Бязь лішняга шуму, падзелавому строга і з той дакладнай пунктуальнасьцю, на якую здольныя дзелавыя Немцы.

Гаспадаром належала ня толькі ідэя правядзеньня "Тыдня". Яны ўзялі на сябе і ўсе арганізацыйныя і матар'яльныя выдаткі.

Беларусам гэта мерапрыемства было патрэбна больш, чым каму. Чарнобыльская бяда прымушае крыкам крычаць, і ўсякі інтарэс да нашай горкай зямлі — надзея на спачуваньне, а, магчыма, і на дапамогу.

Выстаўка маладога беларускага мастацкага авангарду, сямейная выстаўка Арлена Кашкурэвіча і сыноў Фёдара і Ігара, выступленьне фальклёрнага ансамблю, пісьменьніцкія сустрэчы і аўтарскія чытаньні Васіля Быкава і аўтара гэтых запісак...

Прадугледжвала праграма "Тыдня" шматлікія сустрэчы бэрлінцаў з загадчыцай дзіцячага гэматалягічнага цэнтру Менску Вольгай Алейнікавай — чалавекам ярка актыўным і энэргічным. Менавіта на яе плечы рэспубліканскае міністэрства аховы здароўя ўзваліла адзін з самых цяжкіх клопатаў — адчайную барацьбу зь дзіцячымі лейкозамі, відаць самым страшным, што прынёс Чарнобыль. Пішу "адчайнгую", бо рэспубліка была не гатовая ( ды й сяньня не гатовая) пасьпяхова супрацьстаяць гэтаму страшнаму захворваньню. 10-15% вылечаных дзяцей у параўнаньні з 80-85%, што вылечваюць у клініках Захаду, — хіба не паказчык ледзь не нулявога узроўню і нашай мэдыцыны, і нашай чалавечай годнасьці.

Дзіцячае гэматалягічнае адзьдзяленьне, ані адпаведнага памешканьня, ні патрэбных лекаў, ні неабходнай колькасьці спэцыялістаў... І гэта ў Менску, у сталіцы! Некалькі пакояў на 50-60 хворых дзяцей, кажнае зь якіх павінна знаходзіцца ў асобным, стэрыльным боксе. Ні пакоя для гульняў (дзеці!), ні пакоя для маці (дзеці!)... Два лекары, два практыканты зь інтэрнатуры менскага мэдінстытуту, а ўсё іншае зноў на плечы Алейнікавай.

Як чаўнок, снуе яна па Заходняй Эўропе... Нямеччына, Аўстрыя, Швайцарыя, сама — адна і лекар, і заказчык, і дыплямат.

І невыпадкова ледзь не на кажнай сустрэчы — і большай, і меншай, — мы чулі пытаньні: 'А што зрабіў і што робіць саюзны ўрад? А што зрабіў і што робіць беларускі ўрад?

Чатыры гады паказалі яшчэ, што ўлады нашы ад самай высокай і ніжэй амаль нічога (апроч голых дэкларацыяў) не зрабілі для таго, каб нэўтралізаваць разьвіцьцё трагэдыі. Скажам больш, рабілася ўсё для таго, каб заглушыць крыкі ахвяраў, закалыхаць сусьветную грамадзкасьць. Добра ведалі гэта і многія бэрлінцы, але не маглі зразумець аднаго: як гэта можна кінуць народ у такой бядзе? Перакласьці дзяржаўную справу яго выратаваньня на плечы адзінак, добраахвотнікаў-энтузіястаў?

Ня хочацца ўспамінаць, а ўспамінаецца...

Успамінаецца дарога сюды ў цягніку 'Масква-Бэрлін'. Яшчэ нядаўна, да перабудовы, да барацьбы з алькагалізмам, — нармальны чысты цягнік, калі ня з максімумам, то зь неабходным мінімумам даброт для пасажыраў. А сяньня — безь цяпла: яго пасьпяшыліся выключыць, бяз буфэту — шклянкі мінэральнае вады ня знойдзеш, калі ня ўзяў з сабой, кавалка хлеба ня знойдзеш, калі зноў-жа не палажыў у чамадан, з мокрымі — хоць выкручвай — прасьцінамі, коўдрамі. А ў Быкава і ў Кашкурэвіча хворыя бронхі, ім і пры нармальным цяпле цяжка дыхаецца. Таму ўсе спалі не распранаючыся. Як салдаты на вайне.

Ня хочацца ўспамінаць, але... Нікому з удзельнікаў "Тыдня" не замянілі ні рубля на замежную валюту. Пра гэтыя "неабмяняныя" рублі прыкра гаварыць, і не гаварыў-бы, калі-б...

Вольга Вітальеўна Алейнікава разам зь яшчэ адным доктарам павезьлі на самалёце двух цяжка хворых (усё той-жа лейкоз) дзяцей зь іх маткамі ў клініку унівэрсытэту імя Гётэ ў Франкфурце-на-Майне. Ні дактаром, ні маткам наш чульлівы рэспубліканскі ўрад і наша Міністэрства аховы здароўя не знайшлі магчымасьці абмяняць ні капейкі. Калі клініка ўнівэрсытэту, калі доктар Гарайн узяліся лячыць дзяцей, то хай бяруць на сябе і ўсе іншыя клопаты!

І гэта яшчэ ня ўсё. Аднаму дзіцяці ў самалёце стала дрэнна. Клініка ўжо нічога не магла зрабіць, дзіця памерла. І вось: няўцешная маці над мёртвым дзіцём. У чужой краіне. Ня ведаючы мовы. Без капейкі грошай (нашы грошы — ня грошы). Пазванілі ў савецкае консульства. Адтуль сказалі, што сёньня ніхто прыехаць ня можа. Прыедуць толькі заўтра пасьля абеду! Заўтра была сыбота, і да гэтага заўтра было яшчэ болей, чым суткі!..

Нармальныя людзі разумеюць гора. Работнікі клінікі сабралі грошы для маці, клініка ўзяла на сябе выдаткі на труну і на перавозку цела дадому...

І сёньня яшчэ многія з партыйных апаратчыкаў з настойлівай упартасьцю балабоняць пра вернасьць сацыялістычнаму выбару. Якому сацыялізміу? Сацыялізму партапарату? Сацыялізму генацыду трыццатых гадоў? Сацыялізму Чарнобыля?

# НАФАШЫСЬЦІЛІ АЙЦУ НАДСАНУ

Згодна менскай вандэйскай "Зьвязды" за 21-га лістапада 1990 г., вялікай небясьпекай для нашых запрыгоненых калгасамі і заражаных Чарнобылем суродзічаў зьяўляецца... лёнданскі сьвятар Надсан. Артыкул "Хто вы, айцец Надсан?" па загаду менскай Вандэі, да трэцяга прыезду а. Надсана зь лекамі для ахвяраў Чарнобыля, падрыхтаваў Э. Савіцкі. Гэты "кандыдат гістарычных навук, дацэнт" падскаквае з радасьці, што, каб выкрыць гэтага "ваеннага злачынцу, здрадніка" "зьберагліся некалькі сапраўдных дакументаў пра Надсана". Савіцкі забываецца сказаць, што зьберагглі і сфабрыкавалі гэныя "дакуманты" тыя самыя "ворганы", якія некалі вымардавалі мільёны Беларусаў у Курапатах і Гулагу. Каму, як каму, а гэным ворганам, ведаеце, як можна верыць...

Згодна "дакумантаў", Надсан некалі маршыраваў у шэрагах Саюзу Беларускае Моладзі, наведваў у красавіку-травені 1944 году курсы "сярэдніх кіраўнікоў у Альбэртыне". Там "вэрбавалі добраахвотнікаў у роты СС СБМ", і "першая такая рота 7-га красавіка 1944 году была накіраваная з Альбэртыну ў адзін з вайсковых лагераў у паўднёвай Германіі". Зь няведамых прычын на доказ гэтага ашаламляльнага гістарычнага адкрыцьця не зьберагліся адпаведныя дакуманты адпаведных ворганаў, якія гэтта-ж мусілі-б пацьвердзіць эсэсавасьць "фашыста" Надсана й іншых бебурнацаў

Некалі Бумажкова ў "Вячэрнім Мінску" была заавансавала айца Алеся аж у лейтананты СС, а цяпер Савіцкі паведамляе, што цяперашняму сьвятару калісь ў СБМ "прысвоена службовая ступень 'старшы зьвязовы'". Адным словам — справа дрэнь, Надсана здэградавлі. Але ня трацьце надзеі, айцец Алесь. Калі, з Божай помаччу, будзеш і далей бесьперапынна мабілізаваць у сваіх і чужынцаў помач для заражаных Чарнобылем людзей, дык нейкія, — адпаведныя, вандэйскія, зразумелая рэч, — ворганы яшчэ могуць заавансаваць цябе некалі і ў рангу обэрштурмбанфюрэра СС...

Зьбіраючы матар'ялы пра беларускія вайсковыя адзінкі пад нямецкай камандай падчас Другое вайны, — для кнігі "Змагарныя дарогі", выданай у 1962-м годзе, — я чуў пра розныя адзьдзелы. Пра тое, быццам у Альбэртыне набіралі моладзь у СС, а цэлую роту СС выслалі "у Германію", — пра гэта ня чуў. Распытваўся я ў двух суродзічаў, якія былі ў Альбэртыне і ведалі там Надсана. Ніякіх вэрбункаў у СС, згодна іх, у Албэртыне ня было.

У хвасьце свайго артыкулу партыйны "дацэнт" згадаў, што айцец Надсан ужо два разы прывозіў у Менск для ахвяраў Чарнобыля "лекі, набытыя, дарэчы, на сродкі прыхажан". І гэтта "дацэнт" зь нейкіх прычынаў не спасьцярог якім чынам гэты сьвятар са сваёй маленькай парафіі мог назьбіраць такую аграмадную суму грошай і ўжо трэці раз на Каляды едзьце ў Беларусь ратаваць ахвяры Чарнобыля!

Айца Надсана пазнаў я ў чырвені 1944 году ў менскай Школе Камандзераў Беларускай Краёвай Абароны, што праіснавала тры тыдні. У жнівені ў Францыі юнакі нашы перайшлі да французскіх Макісаў. Мы апынуліся ў Брытанскай восьмай

арміі ў Італіі. На маіх вачох, у часе баёў падчас нашае афэнзывы над ракой Сэньё на подступах да Балёніі, Надсана раніла.

Пасьля вайны ахвярны, надзвычайна энэргічны й працавіты, наскрозь сумленны айцец Надсан, — сьвятар і навуковец, кіраўнік бібліятэкі й музэю імя Ф. Скарыны ў Лёндане, — улажыў многа працы ў рэлігійнае і культурнае беларускае жыцьцё ня толькі ў Англіі, але наагул сярод беларускае эміграцыі і чужога навуковага сьвету, што цікавіцца Беларусьсю, на Захадзе. З усіх беларускіх сьвятароў у вольным сьвеце ён сабраў найбольшыя сумы для закупу лекаў для пацярпеўшых ад Чарнобыля і завёз тыя лекі ў "імпэрыю зла", якая, як усім вядома, паволі распадаецца. Іншым нашым сьвятаром і інстытуцыям трэба браць прыклад з айца Надсана.

Чужынцы, — а насамперш тыя добрыя людзі, каторыя сваімі ахвярамі памагаюць нашым заражаным Чарнобылем суродзічам, — пытаюцца ў нас, чаму савецкі ўрад не памагае ахвярам Чарнобыля? Адказваем: савецкі ўрад і менская Вандэя ня толькі не прыцягнулі да адказнасьці тых сваіх "спэцаў", што зрабілі чарнобыльскую аварыю. Бачыце, яны й цяпер надта занятыя: удома рэжым менскае Вандэі змагаецца зь Беларускім Народным Фронтам, у праграме якога на першым месцы стаіць помач беларускаму народу ў ліквідацыі фізычнага й духовага Чарнобыляў, а цівуны тэй менскай антыбеларускай і антынароднай Вандэі бамбяць такіх міласэрных і ахвярных хрысьціянаў Беларусаў, як айцец Надсан, каторы мабілізуе сваіх і чужых на помач ахвярам Чарнобыля.

*К.Акула*

## ЯК СТАЛІНІСТЫ ПРАВОДЗЯЦЬ БЕЛАРУСІЗАЦЫЮ Ў МЕНСКУ

## [»Свабода», Менск, студзень, 1991 г.]

**Ноччу з 3 на 4 студзеня невядомыя злачынцы залезьлі ў рэдакцыі тыднёвіка "Літаратура і Мастацтва", часопісаў "Полымя" і "Беларусь", якія месьцяцца на рагу вул. Захарава і завулка Румянцава ў Менску. Гэтаксама праз вакно злодзеі патрапілі ў памяшканьне часопіса "Нёман" на рагу вул. Варвашэні і Ленінскага праспэкту.**

**У пакоях рэдакцыяў злодзеі здымалі зь петляў дзьверы, выймалі шыбы, вывальвалі ў кучы ўсё, што было ў шафах і шуфлядах сталоў, раскідалі паперы, кнігі ды іншыя рэчы. Гэткім чынам былі перагорнутыя дзесяткі кабінэтаў...**

**Відавочна, што рабунку злодзеі на мэце ня мелі, бо шмат якія каштоўныя рэчы засталіся на мейсцы. З сабой пагромшчыкі ўзялі толькі магнітафон, касэты і цыгарэты, шакалядку...**

**Палітычны характар пагрому гэтаксама відавочны. "Правучыць", "даць урок" дэмакратычным беларускім выданьням. Хто гэты "настаўнік" — павінна адказаць міліцыя, якая распачала сьледзтва.**

**Тым часам з дасьведчаных крыніцаў нам паведамілі, што намер правесьці пагром беларускіх рэдакцыяў ня раз выказваўся ў гутарках курсантаў 3-га курса ваенна-палітычнае вучэльні, якая разьмешчаная на вул. Славінскага, насупраць кінатэатра "Вільнюс". Некаторыя курсанты зьбіраліся ўчыніць такі пагром перад выездам на палявую практыку.**

**Апошнім часам у вучэльні ідзе разьюшаная прапаганда супраць БНФ і усяе беларушчыны — вынік правалу мяйсцовага кандыдата на выбарах у Менгарсавет, — паведаміў СВАБОДЗЕ кампэтэнтны інфарматар.**

## ДА СОТЫХ УГОДКАЎ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА

Сёлета 9-га сьнежня мінае сто год ад нараджэньня Максіма Багдановіча. Дом-музэй паэты ў Гародні, створаны намаганьнямі аматараў ягонае творчасьці, зьяўляецца унікальным асяродкам нацыянальнае культуры і вядзе асьветніцкую дзейнасьць. Судзіце самі — адзіны супрацоўнік прымае ў год каля 200 экскурсіяў, у выбарчую кампанію гэта было адзінае месца сустрэч апазыцыі, народнага фронту. З 1986 году музэй функцыянуе практычна ў закансэрваваным выглядзе на 50 кв. мэтрах плошчы. Гарвыканкам не вызваляе сямі цесных жылых кватэраў у гістарычным помніку архітэктуры, дзе ў мінулым стагодзьдзі жыла сям'я паэты, каб пашырыць экспазыцыю.

Беларускі люд на мяжы жабрацтва і выміраньня адчувае асаблівую патрэбу ў сваіх сьвятых. Няўміручы Максім Багдановіч заўсёды будзе гарэць зоркай на родным небе, у стогадовы юбілей чакае падарункаў ад крыху больш заможных братоў за мяжою. Чакаем ад вас матар'яльнае і маральнае дапамогі — друкаў, успамінаў, публікацыяў, старых рэчаў. У нас няма слуцкага паса, паштовак, абразоў і сродкаў на правядзеньне конкурсаў да ўгодкаў паэты, на арганізацыю сьвята.

*Данута Бічэль-Загнетава*
*адзіны супрацоўнік Дома-Музэю*
*Максіма Багдановіча ў Гародні*
*адрас: вул. М. Багдановіча, д. 1, Гародня, 230023, тэл.: 45-22-54, хатні: 44-01-27.*

Камітэт Сувязі Беларускіх Вэтэранаў просіць усіх, хто жадае адгукнуцца на заклік выдатнай беларускай паэткі і апякункі Музэю М. Багдановіча Дануты Бічэль-Загнетавай, прысылаць свае ахвяры на адрас часапісу "Зважай". Паэт чыстае красы, наш нацыянальны геній Максім Багдановіч, аўтар слаўнае "Пагоні", прынёс вялікую даніну ў беларускае адраджэньне і ўлажыў бясцэнны скарб у нашу культуру. Ушануйма сотыя ўгодкі ягонага нараджэньня. Паможам нашым патрыётам-суродзічам у Гародні падрыхтаваць Дом-Музэй Багдановіча да вялікага юбілею.

*К.Акула*

### СУЧАСНЫ ФАЛЬКЛЁР

Дыялёг... а не маналёг.

*— І краю свайго не ўваскрэсім.*
*І будуць з нас людзі сьмяяцца.*
*— Але спачатку павесім*
*усіх камуністаў за яйцы!*

*— Схаваемся ў голым лесе,*
*каб жыць, як галодныя зайцы.*
*— Але спачатку павесім*
*усіх камуністаў за яйцы!*

*— Узьнімемся ў паднябесьсе,*
*прыкрыўшыся фігавым лістам...*
*— Але спачатку павесім*
*За яйцы ўсіх камуністаў!*

### ЯК НАС АБКРАДАЮЦЬ І КАНТРАЛЮЮЦЬ

Пазалетась за тры часапісы і адну газэту зь Менску я заплаціў у таронцкую "Тройку" 160 даляраў. Летась прыслалі мне рахунак за тое самае аж на... 240 даляраў, паводле рынку — нейкіх 3000 рублёў. У Менску гэтая цана можа была-б адна дзясятая таго, што агенты "Саюздруку" і "Тройкі" хацелі ўзяць ад нас тут, у Канадзе. Я папрасіў аднаго суродзіча, каб заплаціў за мяне падпіску ў Менску. У "Саюздруку" яму сказалі, што для замежных чытачоў заказы прыймае "Саюздрук" толькі з-за мяжы...

Зразумела вам? Вось як нас абкрадаюць, а адпаведныя гнюсныяворганы кантралююць...

К.Акула

## АМЭРЫКАНСКІ ЎКЛАД У ВАЙНУ

Пасьля Другой сусьветнай вайны ў Савецкім Саюзе на працягу прынамся двух дзесяцігодзьдзяў цьвіла й выдавалася "літаратура" пра "векапомныя дні", так званую вялікую перамогу, гэройства, геніяльнага генэралісімуса й іншае. Паводле вэрсіі "роднае партыі", Савецкі Саюз амаль сам перамог фашыстоўскую Нямеччыну. Затушавалася тое, што да 1941 году гэны самы генэралісімус памагаў "саюзнай вялікай Германіі" заваёўваць Эўропу. І амаль заўсёды прамоўчваўся ўклад у вайну супраць Гітлеравай Нямеччыны Злучаных Штатаў Амэрыкі. І сяньня яшчэ мала жыхароў Беларусі ведае пра тое, колькі Амэрыка ваявала, колькі й чаго страціла, як і чым памагала Савецкаму Саюзу. Летась, дзякуючы Амэрыканскай Інфармацыйнай Агенцыі, выданая была брашура ў беларускай мове, п.заг. "Змаганьне за свабоду", "Злучаныя Штаты ў Другой Сусьветнай Вайне". Гэнай брашурай карысталася выстаўка кніг і экспанатаў Інф. Аг-а ЗША летась у Беларусі. Вось што там напісана пра амэрыканскі ўклад у вайну і помач хаўрусніку — Савецкаму Саюзу:

"Пад канец Другой сусьветнай вайны больш за 12 мільёнаў амэрыканскіх мужчынаў і жанчын, амаль дзевяць працэнтаў ад усяго насельніцтва Злучаных Штатаў, былі пастаўленыя пад зброю. Але Амэрыканцы ня толькі ўзбройвалі і разьмяшчалі свае сілы вакол сьвету. Яны таксама пастаўлялі запасы саюзьнікам па г. зв. ленд-лізе — праграме нябывалай паўніні і сьмеласьці, што сягала нават да Арктыкі, Пэрсідзкага заліву і па другі бок Гімаляяў. Ад свайго пачатку ў 1941 годзе, уся дапамога саюзьнікам па праграме ленд-лізу перавысіла 50 мільярдаў даляраў. З гэтага больш за 30 мільярдаў пайшло Вялікабрытаніі і яе заакіянскім тэрыторыям, а 11 мільярдаў — Савецкаму Саюзу. У 1945 годзе, калі валавы нацыянальны прадукт ЗША складаў 211 мільярдаў даляраў, а фэдэральны бюджэт быў 95 мільярдаў (каля 89% ішло на абарону), выдаткі на ленд-ліз былі вялізарныя ў параўнаньні з гэтымі эканамічнымі паказчыкамі.

Паводле прэзыдэнцкага дакладу Кангрэсу аб ленд-лізаўскіх апэрацыях, частковы сьпісак тавараў, завезеных Савецкаму Саюзу ў пэрыядзе паміж 7-га лістапада 1941 г. і 20 верасьня 1945 г., уключаў у сабе наступнае: 4.062.000 мэтрычных тон харчоў, 14.795 самалётаў, 7.056 танкаў, 51.503 джыпы, 375.883 грузавікі, 8.071 трактар, 8.218 зэнітак, 131.633 аўтаматы, 313.650 мэтр. тон узрыўчаткі, 1.981 лякаматываў, 11.155 таварных вагонаў, 90 трансп. караблёў, 105 зьнішчальнікаў падводных лодак, 197 тарпэдных лодак, 2.540.000 мэтр. тон сталі, 2.422.000 мэтр. тон нафты, 754.000 мэтр. тон хэмікаліяў, 3.786.000 шын і 15.417.000 пар армейскіх чаравікаў.

На дамашнім фроньце Амэрыканцы ўсіх заняткаў прыкладаліся да ваеннага высілку з аднадушнасьцю, якая, на думку некаторых, застаецца і дасюль неперавзыдзенай у гісторыі Амэрыкі".

Наш суродзіч сп. В. Мельяновіч працаваў "гідам" — guide — на амэрыканскай кніжнай выстаўцы. Зьмяшчаем ягоны ліст, пісаны 12.XII. 1990 г.:

"Пару месяцаў таму назад я меў нагоду адведаць Беларусь і сваякоў у занядбаных бедных вёсках. Наш урад паслаў мяне як "гіда" на Амэрыканскай кніжнай выстаўцы ў Берасьці на дзьве нядзелі. Тэма выстаўкі "Змаганьне за свабоду" — усе кніжкі былі пра амэрыканскае змаганьне ў часе Другой вайны. Людзі былі вельмі захопленыя гістарычным матар'ялам, як казалі — праўдзівай гісторыяй. А што вельмі важна — гэта брашура на беларускай мове, выданая нашай USIA агенцыяй.

Я меў вельмі цікавыя спатканьні з добрымі Беларусамі ў Берасьці, Менску й Маскве. У Берасьці беларускасьць жыве бо многа шчырых адданых Беларусаў акадэмікаў, мастакоў, пісьменьнікаў, паэтаў, палітычных асобаў і **партыйных,** што адчуваюць сябе шчырымі Беларусамі. Але што мяне зацікавіла гэта што БНФ ёсьць актыўны, з цудоўнымі кіраўнікамі і актыўнымі сябрамі. Таксама пазнаўся зь кіраўніцтвам Рэспубліканскае і Дэмакратычнае партыяў.

Быўшы ў Маскве, я меў нагоду спаткацца з спадаром Аляксеем Каўкай. Ён прасіў перадаць Вам прывітаньні ад яго і сяброў Маскоўскага Таварыства (*маецца на ўвазе Беларускае Таварыства імя Франьцішка Скарыны, — Рэд*). Яны ўсе чакаюць і чытаюць Ваш часапіс "Зважай" і жадаюць усяго найлепшага Вам...

Яны запрасілі мяне на вечарыну , чыталі лекцыю пра беларускія вайсковыя бітвы ў Грунвальдзе й пад Оршаю. Амаль палавіна сяброў гэтага таварыства ёсьць высокія афіцэры (многа палкоўнікаў) яшчэ на службе ды ў уніформе, а другія ўжо на пэньсіі. Я ёсьць вельмі захоплены гэтымі людзьмі.

Перад ад'ездам я бачыўся яшчэ раз з сп. Каўкай і другім палкоўнікам з Акадэміі Фрунзе. Быўшы ў нашым (амэрыканскім) пасольстве, я зайшоўся ў краму, дзе купіў **ежных** падаркаў і таксама амэрыканскіх папяросаў для іх абаіх. Гэта было найважнейшае цяпер.

З пашанай, *Васіль* (*Вацлаў*) *Мельяновіч*

## НА ПОМАЧ АХВЯРАМ ЧАРНОБЫЛЯ АД БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

Згодна лісты грашовых ахвяраў на помач пацярпеўшым у Беларусі ад аварыі ў Чарнобылі, летась да 9-га сьнежня прыйшло:

у Злучаных Штатах — 27739 амэр. даляраў,

у Канадзе — 16285 кан. даляраў.

За гэтыя сродкі плянуецца купіць абсталяваньне для лябараторыі.

## ПАМЫЛКІ...

На беларускамоўнай бачыне менскай газэты "Знамя юности" за 21.11.1990 г. зьявіўся артыкул Мартыненкі — "Беларус — праз гады, рэжымы, краіны". Ёсьць у ім памылкі, што адносяцца да мае асобы.

*Першая памылка*: **Кастусь Акула [сапраўднае імя — Аркадзь Качан].**

Мяне хрысьцілі Аляксандрам. І чаму імя **сапраўднае?** Дык цяперашняе **несапраўднае?** Прозьвішча і імя, з патрэбаў бясьпекі, змусіла мяне зьмяніць Другая сусьветная вайна, а пасьля, калі дзесяцігодзьдзямі фашысьцілі мне розныя прокшы, раманоўскія, бягуны і іншыя партыйныя цівуны, дык яны ўпікалі, што быццам Акула, сагрэшыўшы перад "радзімай", схаваўся пад чужым прозьвішчам...

*Другая памылка*: радзіўся я 16-га лістапада, а не 25-га, у 1925-м годзе.

*Трэцяя памылка*: За ўдзел у баёх у складзе Брытанскай 8-й арміі ў Італіі атрыманыя мэдалі: "Зорка Італіі" і мэдаль "За вайну 1939-1945", а не — як піша Мартыненка, — "Залатая зорка Італіі" і "брытанскі мэдаль за барацьбу з фашызмам у вайне 1939—45 г."

У перакладзеным на беларускую мову адкрытым лісьце да Салжаніцына, (гл. "Зважай" нр. 4(40), 1985 г., выражэньне "моцарствовых поляков" чамусьці замянілася на... "моцартаўскіх палякаў".

Кагадзе адна мной вельмі паважаная асоба з бацькаўшчыны тлумачыла мне, што савецкі друк не рэагуе на свае ляпсусы ніякім чынам. Але гэтта рэч ідзе пра вольнага аўтара вольнае прэсы, а не пра савецкі друк...

Вітаўту Мартыненку жадаю посьпехаў у журналістыцы і іншых галінах творчае дзейнасьці. Усё-ж, лічу патрэбным параіць яму, быць больш уважным у адносінах да фактаў, якія **ня толькі можна, але й абавязкова патрэбна правяраць,** пакуль імі карыстацца...

*К.Акула*

## »ІМПЭРЫЯ ЗЛА«

**Калі ў Пэрсідзкім заліве распачалася сёлета 15 студзеня вайна супраць Іраку, які летась акупаваў Кувэйт, Гарбачоў — гэта тойсамы, які атрымаў узнагароду Нобля за мір, — загадаў ліквідаваць незалежныя балтыйскія рэспублікі. Гэтак у старажытным беларускім горадзе Вільні, які дыктатар Сталін аддаў Летуве ў 1939 г, і які цяпер пад акупацыяй Летувісаў, было забіта 14 абаронцаў летувіскай незалежнасьці.**

**20-га студзеня ў Рызе, пры атацы савецкіх адзьдзелаў спецназ — г. зв. чорных бэрэтаў, — на будынкі латвійскае паліцыі, было забіта 5 абаронцаў і шмат ранена.**

**Гэтта на Захадзе дэмакратычныя палітыкі ня могуць адказаць на пытаньне: каторы Гарбачоў сапраўдны, той з прэміяй Нобля за мір, ці гэты, што загадвае атакаваць балтыйскія, — а пасьля, праўдападобна, і іншыя, — »сувэрэнныя»рэспублікі?**

**Паняволеныя Маскоўшчынай народы даўно пазбыліся ўсялякіх ілюзіяў адносна »дэмакрата і міраносцы» з Крамля.**



TORONTO SUN, 21. II. 1991

## А МАХЛЯРЫ МАХЛЮЮЦЬ

Летась у лістападзе ў Парыжы сябры Паўночна Атлянтычнага Блёку падпісалі дагавор з Варшаўскім Пактам пра рэдукцыю канвэнцыяльнай зброі. Калі ўвага сьвету была сканцэнтраваная на канфлікце Аб'ёднаных Нацыяў зь іракцкім дыктатарам Гусэйнам, што захапіў Кувэйт, Саветы пачалі перавозіць цягнікамі бальшыню зброі, якую трэба былдо згодна ўмовы зьнішчыць, за Урал — тэрыторыю, якую умова не забавязвае.

Паводле разьведкі сатэлітаў, за Урал перакінулі: 12 тыс. танкаў, 189 тыс. гарматаў, 5 тыс. панцырных машынаў, 12 тыс. усякіх іншых ваенных машынаў. Усё гэтае "дабро" перавозілі чыгункамі некалькі тыдняў у той час, як чыгункі гэныя павінны былі-б перавозіць багаты летась ураджай. Цяпер-жа крамы пустыя, дабро згніло на нівах, а гаспадары "Імпэрыі зла", зламаўшы яшчэ адну ўмову, маюць, вядома-ж, свае пляны.

## *КАМУНІСТЫ МОГУЦЬ БРАЦЬ УДЗЕЛ У БНФ*

Пачынаючы з 30-га кастрычніка 1988 году Беларускаму Народнаму Фронту , знаходзячыся фактычна на поўлегальным становішчы, удаецца стрымліваць агрэсіўнасьць КПБ-КПСС, шляхам, перш за ўсё, гуманістычнай кансалідуючай палітыкі. БНФ на сёньняшні дзень гэта адзіны Фронт, з усіх аналягічных рухаў у СССР, які прынцыпова дапускае ўдзел камуністаў у сваіх арганізацыях, прытым нават партыйных функцыянераў. Толькі функцыянеры ня могуць мець ніякага кіраўнічага становішча ў БНФ. Шэраговыя-ж камуністы абмежаваньняў ня маюць.

Такія дачыненьні пагрунтаваны на прынцыпе гуманізму, дзе мерай усіх каштоўнасьцяў зьяўляецца чалавек, яго асоба, яго жыцьцё. Любая палітыка, любыя палітычныя ідэі, любое палітычнае супрацьстаяньне ня вартае выедзенага яйка, калі гіне асоба, ці несправядліва церпіць невінаваты чалавек.

Бальшавіцкі сьветапогляд аб'ядноўваў і не разьдзяляў ідэалёгію ад носьбітаў гэтай ідэалёгіі. Таму барацьба з ідэалёгіяй прывяла камуністаў да барацьбы зь людзьмі, да чалавеканенавісьніцтва, да тэрору і генацыду. Гуманістычная канцэпцыя, ня прымаючы ідэалёгіі, змагаючыся супраць яе словам, лёгікай, вобразамі, фактамі і г.д., рашаючае вызначэньне пакідае за самім яе носьбітам, за чалавекам, які робіць выбар сам, ніхто яго сілком не прымушае, не пагражае, ня ставіць у бязвыхаднае становішча. Мы адасабляем суб'ект таталітарнай ідэалёгіі (чалавека) ад самой гэтай ідэалёгіі і змагаемся за яго асобу і свабоду.

У палітычнай барацьбе, згодна гуманістычнай канцэпцыі, ніколі ня трэба заганяць праціўніка ў кут, лепш пакінуць яму хоць адны адчыненыя дзьверы, каб ён мог выйсьці і пераасэнсаваць свой стан. Такі падыход пры палітычных расколах грамадзтва, пры грамадзкім супрацьстаяньні дазваляе пры любым зыходзе захаваць гуманістычнае адзінства людзей, нацыю, яе супольнасьць.

*З. Пазьняк, "Народная газэта", 25-31, 1990*

### РЭФЭРЭНДУМ...

Згодна пастановы савецкага парлямэнту, 17-га сакавіка мае адбыцца рэфэрэндум. Адказам "так", або "не" трэба будзе вырашыць наступнае: "ці захаваць Саюз Савецкіх Сувэрэнных Рэспублікаў аднолёнай фэдэрацыяй сувэрэнных рэспублікаў, якія будуць мець роўныя правы".

Не паглыбляючыся ў ранейшую гісторыю Беларусі, трэба памятаць, што 25-га сакавіка, 1918 году наш народ выказаўся за поўную незалежнасьць ад Маскоўшчыны і ўсіх іншых, што хацелі-б быць ягонымі апякунамі, стварыў добрыя асновы сувэрэннай незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі, змагаўся за яе із зброяй. А раней яшчэ нацыянальны гэрой Кастусь Каліноўскі сказаў беларускаму, тады сялянскаму народу, што ён толькі тады будзе вольным, зажыве шчасьліва, калі "маскаля над табой ня будзе".

Із сваімі чарнобылямі, гулагамі, "роднай партыяй" і іншымі трасцамі маскаль няхай пануе ў Маскоўшчыне, а Беларусь — міралюбную, што Бога любіць, працавітую, "ціхую і ветлую", што ўжо аж занадта многа пад Маскоўшчынай адпакутавала, — няхай пакіне. Тады, як казаў паэт, "прыйдзе ўнукаў панаваньне там, дзе сягоньня плача дзед".

### *НЕДАГЛЕДЖАНЫЯ МАГІЛЫ*

(Зь ліста)

Была ў Празе. Уражаньні незабыўныя, што й выславіць цяжка. На Альшанскіх могілках знайшла магілкі Крэчэўскага і Захаркі, вельмі засьмечаныя і недагледжаныя. Надпісаў ужо амаль не відно... Крыўдна стала за сваю неахайнасьць да памяці пра такіх людзей.

# СЕМДЗЯСЯТЫЯ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ЗМАГАНЬНЯ

## У СЛУЦКУ

На сьвяткаваньне 70-х угодкаў паўстаньня ў Слуцак зь Менску прыехалі 15 студэнтаў. Гэтага аказалася досыць, каб у горадзе пачалася ціхая паніка. 15 "нацдэмаў" пад бел-чырвона-белымі сьцягамі прайшлі ад цэнтру гораду да аўтавакзалу, выклікаючы агульнае зьдзіўленьне і рэплікі накшталт: 'Бэнээф революцию делает'.

На аўтавакзале нефармалаў сустракаў, бадай, увесь асабісты склад гарадзкога адзьдзелу унутраных спраў у чынах ад лейтананта да падпалкоўніка. Упэўнены, каб ня гэтая сустрэча, мясцовае насельніцтва значна менш цікавілася—б бягучымі падзеямі. Спачатку прадстаўнікі ўладаў абвінавацілі студэнтаў у правядзеньні несанкцыя-наванага мітынгу, потым па загаду кіраўніка ГАУС спрабавалі затрымаць хлопцаў, трымаючых у руках сьцягі. Напэўна, усё адбылося таму, што ўдзельнікі канфлікту не знайшлі агульнай мовы — міліцыянты ня ведалі беларускай мовы, а студэнты расейскай.

Студэнты так і асталіся на вакзале, на які, мусіць, не распаўсюджвалася юрысдыкцыя мясцовай міліцыі. Сьвята скончылася харавым выкананьнем песьняў экстрэмісцкага зьместу.

Пэўна, пачынаючы збройны чын, Рада Случчыны добра ведала, што справа гэтая абсалютна безнадзейная. Мінула 70 год і жменька маладых нацыяналістаў пасунулася ўздымаць правінцыю, не спадзяючыся ні на што добрае. Цудоўная беларуская традыцыя — займацца тым, за што будзеш пакараным — была падтрыманая.

Здаецца, адметнай рысай студэнцкага руху на Беларусі зрабілася менавіта накіраванасьць на акцыі. Студэнты лезуць пад танкі на рэпэтыцыі вайсковага параду, студэнты падтрымліваюць галадоўку пратэсту (на працягу аднай ночы), студэнты пікетуюць польскае консульства... Узьняць шум вакол падзеі і пакінуць усё бязь зьмен — менавіта так адбываецца амаль усё. Можа з часам, калі ў студэнцкі рух прыйдуць новыя людзі, нешта зьменіцца. А пакуль што мы адсьвяткавалі угодкі Слуцкага збройнага чыну — такія-ж безнадзейныя, як і ён сам.

(*Гэты скарочаны рэпартаж У. Панады ўзяты з нр. 6, "Студэнцкай Думкі", зь Менску.*)

## У ТАРОНЬЦЕ

70- ўгодкі Слуцкага Збройнага Змаганьня супраць бальшавіцкай маскоўскай навалы сьвяткавалі летась у нядзелю 18-га лістапада. Першы Ярарх БАПЦ арх. Мікалай, пасьля сьв. Літургіі, адслужыў, пры вынесеных вэтэранамі сьцягох, паніхіду за слуцкіх змагароў і ўсе ахвяры бальшавіцкага тэрору й змаганьня за свабоду беларускага народу. Даклад чытаў, пасьля абеду, старшыня ЗБК сп. М. Ганько. Віншавалі з нагоды 65-ці гадоў ад дня нараджэньня К. Акулу і 70-ці гадоў ад нараджэньня — Валер'яна Навіцкага.




*Падчас паніхіды. Здымкі Алега Дубягі*

Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў традыцыйна адзначае ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну двухдзённай праграмай. Летась 70-я ўгодкі адзначылі 1-2 сьнежня. У суботу 1-га сьнежня дэлегацыя вэтэранаў з Саўт Рывэр і Самэрсэт злажыла вянок пры помніку Гэроям Беларусі ў Іст Брансвіку. На стужцы — двухмоўнае: "Тым, што змагаліся, каб жыла Беларусь!" Магілы ўдэкаравалі малымі нацыянальнымі сьцяжкамі. Аднак некага тая патрыятычная фраза бянтэжыць.

У нядзелю 2-га сьнежня ў царкве БАПЦ Жыровіцкай Болжай Маці ў Гайленд Парк, пасьля Сьв. Літургіі. а.В.Андраюк, у прысутнасьці вэтэранскай сьцяжной варты, адслужыў паніхіду за аддаўшых сваё жыцьцё ў змаганьні за вольную Беларусь. Сьвятар сказаў прыгожае казаньне.

Пасьля абеду ў залі пад царквою акадэмію адчыніў камандзер ЗБАВ на ЗША Сяргей Гутырчык. Першае - салют да сьцягу і прывсяга вернасьці яму. Айцец Васіль сказаў малітву і адсьпявалі "Беларусь — наша Маці..." Старшыня прывітаў гасьцей. З дакладамі на тэму дня выступалі сп. Васіль Стома і др. Я.Запруднік.

У мастацкай частцы Пётра Звонны і Пётра Скепка пад акардыён выканалі некалькі беларускіх вайсковых песьняў. Закончылі беларускім нацыянальным гімнам.

Падзяка

за падрыхтоўку перакускі належыцца Але і Віктару Дубягам, а спадарыням Эле і Таісе Андраюк — за ушпільваньне беларускіх кукардаў на акадэміі. Шчырае Вэтэранскае дзякуй!

*С.Пчала*

### Перавыбарчы Сход

Кватэры Згуртаваньня Беларуска—Амэрыканскіх Вэтэранаў адбыўся летась 11-га лістапада. Адсьпявалі "Беларусь — наша Маці Краіна". Сход адчыніў старшыня Сяргей Гутырчык салютам да сьцягу, ён-жа і кіраваў ім, а сакратаром запрасіў сп. М.Тулейку. Пасьля ўсіх справаздачаў сход удзяліў абсалюторыюм сябром. Кватэры ЗБАВ за добра праведзеную працу. У новую Управу ЗБАВ былі выбраныя: С.Гутырчык — старшыня, М.Тулейка — заступнік старшыні, Л.Шурак — сакратар, Янка Азарка — скарбнік, В.Дубяга — сяржант парадку, У.Машанскі — сябра. Кантрольная Камісія: П.Кажура, А.Няпейн і А. Субота. Наапошку адсьпявалі беларускі нацыянальны гімн.

### ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Да 25-га студзеня сёлета на "Зважай" атрымана: Д. Трусэвіч — 34.80 дал., В. Кажан — 23.00, А.Лашук — 23.00, Я. Запруднік — 23.00, Б.Рагуля — 50.00, К.Каранеўскі — 20.00, А.Маркевіч — 5.00, А.Палескі — 5.00, А.Монід — 5.00, Н.Сільвановіч — 1.00, Ананіч — 2.00, Э.Пітушка — 5.00, Оля Качан — 50.00, Г. Шэйпак — 18.00, М.Раецкі — 8.50, Стрэчын — 22.80, Я.Каваленка — 22.80, Я.Ханенка — 22.80, С. Карніловіч — 22.80, а.М.Страпко — 11.40, К.Калоша — 22.80, Я.Ракава — 11.40, Істужкі з абеду ў Кліўленьдзе — 22.80, А.Яраховіч — 11.40, Ю.Гасьцееў — 11.40, К.Мярляк — 34.20, Аўген Кажан — 17.15, Раіса Жук-Грышкевіч — 10.00, Я.Запруднік — 23.50, М. Махнач — 35.00.

М. Пракопчык — 20.00, С.Гутырчык — 11.50, Б.Даніловіч — 23.00, А.Шукелойць — 11.50, Я.Запруднік — 23.00, А.Субота — 23.00, М.Каранеўскі — 5.75, А.Сільвановіч — 23.00, А.Няпейн — 5.75, М.Целашэцкі — 11.50, Я.Літвіненка — 5.75, М.Тулейка — 11.50, У.Машанскі — 11.50, Л.Стагановіч — 5.75, Г.П. — 5.75, П.Кажура — 5.75, В.Стома — 11.50, М.Абрамчык — 23.00, Я.Азарка — 5.75, З продажы — 29.90.

*Разам — 849 дал. 70 ц. Усім вялікае дзякуй!*

### Памер Іван Чыгіровіч

**Вэтэран, радзіўся ў Менску, у 1904 г. Памёр 28.11.1990. Пакінуў сына, двух дачок, сем унукаў і чатырох праўнукаў. Радні — наша спачуваньне, а Яму — вечная памяць!**